Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 19 Нядзеля, 30 Верасьня, 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

...КАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМК...

...ЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

...рашэй. на ... даражэй. || Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5, || АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Патрэба шырокай помачы.

Наш Край пасьцігла новае агульнае бедства. Дзякуючы спозьненай, халоднай і мокрай вясьне, ураджай азімых збожжаў, пашы і на'т яравых пасеваў у некаторых паветах ніж й 40 прац. нармальнага. Уцярпелі найбольш нізкія мяйсцовасьці.

Няшчасьце гэтае тым больш адчуваецца, што кволы гаспадарча арганізм нашага Краю яшчэ ня зусім акрэп пасьля вайны і частых стыхійных бедстваў, як ураганы, град, паводкі, пажары і г. д. Адсюль зусім зразумела тая трывога і жах за будучыню, якія захопліваюць усё шырэйшыя і шырэйшыя колы бяднейшага вясковага насяленьня. У страху перад будучым голадам ужо распачаўся масавы збыт жывога інвэнтару, чым з пасьпехам карыстаюцца рожныя спэкулянты, якія зьбіваюць цэны нажывёлу і выдаюць пазыкі пад ліхвярскія проценты.

Ня трэба даводзіць, на колькі пры гэтым патрэбная самая шырокая ўрадавая помач, без якой не абыйсьціся пацярпеўшаму насяленьню. Прычым, гэтая помач павінна быць сваячаснаю. Бо калі пацярпеўшыя здолеюць пазбавіцца значнай часткі сваей жывёлы, якая набывалася і ўзгадоўвалася цэлымі гадамі, дык марна згінуць плады ўсіх высілкаў папярэдніх гадоў, скіраваных на гаспадарчую адбудову нашага Краю.

Ня сумліваемся, што ў цэнтры зусім паважна трактуюць сучасную гаспадарчую сытуацыю і ня будуць чакаць на напамінаньні з мейсц. Праўда, гэтая задача вельмі цяжкая, бо няўраджай адчуўся на тэрэне ўсяе дзяржавы ў большай ці меншай меры. Але ўрад не павінен застанаўляцца ні перад якімі ахвярамі, каб сваячасна аказаць патрэбную помач найбольш пацярпеўшым мяйсцовасьцям, бо, ў праціўным выпадку, панясе страты ўся дзяржава.

Здаецца, гэтае пытаньне было галоўнаю тэмаю гутарак на адбыўшымся нядаўна зьезьдзе ваяводаў у Варшаве. Цяпер адбываюцца паседжаньні ральнічых камісіяў у паветах і ваяводзтвах, на якіх гэтак сама абгаварываюцца спосабы аказаньня помачы пацярпеўшым ад няўраджаю. Тыя шляхі, па якіх павінна ісьці ўрадавая дапамога пацярпеўшым, усім добра ведамы. Гэта спыненьне вывазу пашы і збожжа за граніцу, выдача значных сумаў спаўдзельчым касам і аддзелам Ральнічага Банку, зьняцьце з пацярпеўшых дзяржаўных і камунальных падаткаў, аблягчэньне дастаўкі па жалезнай дарозе пашы і збожжа з больш ураджайных мейсц да пацярпеўшых і г. д.

У гэтым выпадку могуць і павінны адыграць паважную ролю гмінныя і паветовыя самаўрады, крэдытныя касы, сельскагаспадарчыя каапэратывы і ральнічыя колы. Наагул, усе грамадзкія арганізацыі, як сельскія, гэтак і мястовыя, павінны прыняць

актыўны ўдзел у акцыі па аказаньні помачы пацярпеўшым. Што-ж датычыць самых пацярпеўшых, дык уласныя інтарэсы павінны падказаць ім, што рабіць і куды зварачвацца з просьбаю аб помачы. Галоўнае, толькі ня трэба паддавацца паніцы і ня траціць надзеі на ўрадавую помч, якая павінна прыйсьці, хаця можа з некаторым спазьненьнем.

Паводле апошніх вестак, Міністэрства Ральніцтва і Зямельных Рэформаў зьвярнулася да падуладных уладў у справе крэдытаў на корм для жывлы для рольнікаў, пацярпеўшых ад няўраджаю. Ад гэтага часу крэдыты будуць выдавацца ўсім бяз вынятку рольнікам, незалежна ад абшару маемай зямлі. Крэдыты гэтыя будуць выдавацца спаўдзельнямі і павятовымі ашчаднасьцёвымі касамі.

Дык, як бачым адсюль, ужо зроблены першы крок Ураду ў кірунку аказаньня помачы пацярпеўшым ад няўраджаю. Спадзяёмся, што на гэтых паўмерах Урад не затрымаецца і выступіць з больш рэальнаю дапамогаю ў відзе беззваротных субсыдыяў і поўнай адмены падаткаў. Толькі трэба самым дабівацца і напаціцца аб сабе.

# Балючае пытаньне.

Пастанова аб Беларускім школьніцтве, якую прыняла Віленска-Навагрудзкая група паслоў і сэнатараў „едынкі", дала беларусам пэўную надзею, што ўрэшце Урад зразумеў патрэбу даць нам самым магчымасьць вучыць сваіх дзяцей у сваей мове. Дрэнны ці добры, але праэкт арганізацыі беларускага школьніцтва быў высунуты з колаў самога Ураду і беларускія акцыі на школьнай біржы пайшлі ў гару. Беларускія радыкалы пакрычалі, што гэта звычайная спэкуляцыя на hauss'y*), мы баранілі, выходзячы з таго заложаньня, што паважаных паслоў і сэнатараў „едынкі" ніхто за язык не цягнуў і таму пастанова гэтая зьяўляецца больш рэальнай справай, чымся, напрыклад, вучасьце беларусаў у Паўночным Кірмашы ў Вільні.

Тымчасам, ад прыняцьця гэтых пастановаў прайшло ўжо больш двох месяцаў, а на школьным небасхіле „cicho wszędzie, głucho wszędzie, co to będzie, co to będzie".

У працягу гэтых двох месяцаў здарыліся аднак некаторыя рэчы, якія ўказваюць на тое, што Урад частковую рэалізацыю пастановаў „едынкі" пачаў праводзіць у жыцьцё, але, нажаль, не з таго канца, г. ё. ня чытаў, відаць, гэтых пастановаў, як трэба было-зьлева направа, а пажыдоўску—справа налева.

Зачынена Радашкаўская гімназія і амаль ня скончыла існаваньне Т-ва Беларускае Школы.

Мы далёкі ад таго, каб сцьвярджаць, быццам Радашкаўская гімназія стаяла на адпаведнай навуковай вершавіне, але ці можна было вымагаць сяньня ад яе больш таго, што яна магла даць сваім вучням, калі прыняць пад увагу варункі, у якіх яна паўстала і існавала. Кракаў не адразу быў пабудаваны, а Радашкаўская гімназія хаця і меншую тэрыторыю ад Кракава займае, скажам у 1000 разоў, матэр'яльных сродкаў мела менш у 100 тысячаў разоў. Настаўнікі не атрымлівалі вынагароджаньня за сваю працу, а пры гэтых варунках завясьці ў сёньняшні матэр'ялістычны век добрых пэдагогаў--рэч папросту нячуваная. На мейсцы гімназіі, быццам, мае паўстаць 7-клясовая пачатковая школа, але пацеха ад гэтага ўсё-такі слабая. Каму-ж будзе смакаваць пасьля на'т дрэнна прыгатаванай рыбы звычайны селядзец.

Гэткім чынам, выканана толькі частка віленскіх пастановаў „едынкі", а ўласьне, тая частка, у якой гаворыцца аб санацыі ўжо існуючых беларускіх навуковых установаў.

Дзякуючы закону 1924 году аб выкладовай мове ў школьніцтве, беларуская школа ў працугу 4 гадоў зрабілася для нашага грамадзянства нейкім міражам у пушчы, калі падарожны бачыць вачыма крыніцы з студзёнай вадой і ніяк да гэтых крыніцаў дайсьці ня можа: чым больш ён прысьпяшае крок, тым далей яны ад яго адсуваюцца. Беларусы кожны год праводзяць цэлую школьную кампанію ў відзе складаньня дэклярацыяў на адкрыцьцё пачатковых школаў. Груды гэтых дэклярацыяў запаўняюць архівы школьных інспэктаратаў, чакаючы, калі-ж нарэшце яны дачакаюцца лепшых дзён. Зьявішча страшэнна дэмаралізуючае, бо запраўды атрымоўваецца уражаньне, што школьныя ўлады замест таго, каб стаяць на варце законаў, самі іх ня выконваюць. У гэтым сэнсе пастанова, аб якой гаварылася вышэй сьведчыць толькі аб пачучьці законнасьці ў прыймаючых яе асобаў,

Для нас складаньне дэклярацыяў сяньня зьяўляецца найлепшым спосабам дамаганьня школы, бо перадусім законным. Гэта — усе беларусы добра разумеюць і адразу пасьля распачацьця школьнага году, распачынаюць акцыю складаньня дэклярацыяў. Ці разумее толькі гэта вёска? Бо трэба ясна сабе ўцяміць, што на'т у другі, ў трэці, ў соты раз зложаныя дэклярацыі — гэта фундамэнт пад школу. Памыляюцца тыя з бацькоў, што гавораць: „Мы,

*) Спэкуляцыя на hauss'y, біржавы тэрмін, калі ігрок скупляе па нізкай цане паперы і чакае, каб прадаць выгадней.

паночку, ужо складалі дэкларацыі, дый нічога ня выйшла, мусіць і ня выйдзе. Дык няма чаго нанова складаць, толькі час траціць".

Чаго можна і трэба чакаць ад наступіўшага школьнага году? Ад паслоў і сэнатараў беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з Урадам мы чакаем чыну, які-бы сьведчыў, што пастановы, прынятыя імі, не абліčаны на здабыцьцё танным коштам папулярнасьці сярод беларусаў, а ёсьць зразуменьне патрэбы шырокай ўрадовай акцыі ў кірунку арганізацыі беларускіх школаў.

Ад Ураду мы чакаем загалаў аб рэалізацыі тых шматлікіх просьбаў бацькоў, якія ляжаць нярушачымі ў архівах школьных Урадаў.

Ад бацькоў мы чакаем масовага складаньня дэкляpацыяў незалежна ад таго, ці да гэтага часу ўжо пісалсія просьбы ў якой-колечы форме.

Урэшце, ад беларускіх школьных і культурна-асьвятовых арганізацыяў мы чакаем спыненьня барацьбы між сабой, вызваленьня з-пад партыйных уплываў і згуртаваньня высілкаў ў барацьбе за родную школу.

„Кур'ер Віленскі" у артыкуле у № 220 указвае на адзін факт, які ідзе на карысьць Ураду, гэта — беларускія матуры. Справу гэтую „Грамадзянін" няраз ужо парушаў, бачачы у гэтым пералом у школьнай палітыцы Ураду ў Зах. Беларусі. Дзеля гэтае прычыны мы у сёняшнім артыкуле ня ўспомнілі аб гэтым, няхай не падумае хто, што дзеля якіх-небудзь там палітычных прычынаў. Проста, кожны гавора заўсёды аб хворым месцы. Такім хворым месцам мы мелі да нядаўна справу матурыстаў. Сяньня рука перастае хварэць і з падвойнай сілай баліць нага. Мы аб ёй і крычым.

# Абарона ральніцтва перад недахопам пашы.

Polski Związek organizacyj i Kółek Rolniczych падаў да Міністэрства Ральніцтва наступны мэмар'ял:

Апіраючыся на даныя Галоўнага Статыстычнага Ўраду, як роўным чынам на справаздачах інструктараў, можна сцьвердзіць, што паша ў гэтым годзе вельмі благая. Сена на ⅓ менш, чым у нармальныя гады, канюшына амаль напалову слабейшая, а сэрадэля на лёгкіх грунтах зусім прапала. Роўным чынам у бягучым годзе будзе слабы вымалат і яравой саломы. Апрача гэтага, не ўрадзіла і бульба.

Выходзячы з вышэйсказанага, прыходзіцца лічыцца з тым, што ў бягучым гаспадарчым годзе, асабліва на вясну, ня хопіць нашаму ральніцтву ня толькі пашы, але і падсьцілкі. Крызыс гэты адаб'ецца, галоўным чынам, на гаспадарствах гадаўляных, да якіх павінны залічыць гаспадарствы ніжэй 20 гэкт., якія займаюць каля 70°/о усіх ужыткаў рольных у Польшчы. Гэты крызыс у першую чаргу выкліча масавую прадажу жывога інвэнтару, як, напр., малочных кароў, сьвіней і г. д. У зьвязку з гэтым трэба спадзявацца абніжэньня вытворчасьці масла і сьвініны, што ад'емна адаб'ецца па нашым і бяз гэтага дэфіцытным да гэтае пары гандлёвым бюджэце.

На няшчасьце, крызыс гэты будзе абвострany яшчэ няўраджаем пашы ў Нямеччыне, Чэха-Славакіі і Латвіі. Дзьве першыя дзяржавы ўжо ў папярэднія гады вывозілі з Польшчы значную колькасьць саломы, сена, бульбы і г. д. У 1926 г. было вывезена на 20 міл. зл., а ў 1927 г.—на 18 міл. зл. У гэтым-жа годзе трэба чакаць, што гэты экспарт яшчэ большы будзе і асабліва на вясну, калі нашыя гадаўляныя гаспадарствы самі будуць патрабаваць найбольш пашы. Ня гледзячы на вялікую патрэбу на мясцовым рынку, паша будзе вывозіцца за граніцу, бо будзе таньней каштаваць вываз з пагранічных паветаў, напр., да Нямеччыны, чым да больш далёкіх краёў унутры Дзяржавы.

Гэтак сама і Латвія будзе шукаць пашы ў Польшчы і, галоўным чынам, у Віленшчыне, з якою зьвязана беспасрэднюю жал.-дарожнаю камунікацыяй.

Выходзячы з гэтага, Polski Zw. Org. i Kół. Roln. лічыць, што з мэтаю аслабленьня падходзячага гадаўлянага крызысу ў першую чаргу належыць устрымаць надмерны вываз заграніцу: саломы, сечкі, сена, бульбы і адпадкаў ральнічай прамысловасьці. Вываз гэты ў папярэднія гады хістаўся ў межах ад 18 да 20 міл. зл., што складае толькі частку вывазу гадаўляных прадуктаў. Асабліва няўважны вываз бульбы можа ад'емна адбіцца на апраўізацыі беднейшай клясы насяленьня, роўным чынам на прадукцыі малочных прадуктаў і мяса, як роўным чынам і на ўсей земляробскай прамысловасьці.

Дзеля гэтага належыць у першую чаргу:

1) вызначыць вывазную мыту на салому, сечку, сена, бульбу, жмыхі, мелас і інш.;

2) зьменшыць каляёвы тарыф на гэтыя рэчы з мэтаю аблягчэньня перавозкі іх унутры Дзяржавы з адных мейсцаў у другія;

3) у сувязі з гэтымі загадамі належыць устрымаць вываз гэткіх прадуктаў, як атрубі і макуха;

4) неадкладна належыць падвысіць мыту на ўвазныя тлушчы, бо астаўленьне гэтых паш унутры краю было-бы толькі аднабокім загадам і не дало-бы спадзяваных вынікаў.

*Сяляне, спаўняйце свой грамадзкі абавязак — падавайце дэкляpацыі на беларускую школу.*

# Прабляма каапэрацыі і міру.

Каапэрацыя, як ведама, зьяўляецца адным з навейшых спосабаў арганізацыі працэсаў вытворчасьці і абмену, што мае сваёю мэтаю зьніштажэньне ці, прынамся, аслабленьне несправядлівасьцяў капіталістычнага рэжыму і ўнясеньне да эканамічных адносінаў прынцыпаў, якія здольны дапамагчы мірнаму сужыцьцю народаў.

Яна уяўляе ў сабе нешта іншае, як супольнасьць таварыстваў, якія складаюцца з паасобных гаспадарчых адзінак, якія гуртуюцца ў мэтах лепшай арганізацыі вытворчасьці, спажыцьця і абмену: каапэрацыя палягае на прынцыпе роўнасьці сваіх сяброў і каапэратыўным прадпрыемстве і абароне ад эксплёатацыі насяленьня занадта вялікіх прыбыткаў.

Каапэрацыя земляробаў уяўляе сабою, ў зьвязку з зьніштажэньнем буйнай зямельнай ўласнасьці, адзін з магутных спосабаў для падняцьця прадуктыўнасьці працы дробных хлебаробаў дзякуючы таму, што яна памагае ім выкарыстаць у іх гаспадарках лепшыя машыны і прылады, якія недаступны для кожнага дробнага хлебароба паасобна.

Каапэрацыя ў прамысловасьці і рамесьніцтве, арганізуючы дробных вытворцаў, імкнецца да таго, каб гартаваць сябром каапэрацыі прыбытак, які бліжыцца да вартасьці тых рэчаў, якія вытвараюцца імі; гэткім шляхам яна імкнецца да зьніштажэньня эксплёатацыі работнікаў прадпрыемцамі.

Каапэрацыя ў галіне спажыцьця дае гаспадару магчымасьць атрымліваць прадукты лепшай якасьці і больш танныя па цане, дзякуючы чаму павялічвае пакупную здольнасьць насяленьня, павышае ровень спажыцьця і усоўвае паважныя матывы незадаваленьня сваім лёсам.

Каапэрацыя ў галіне абмену (гандлю), адсоўваючы шкадлівых пасрэднікаў, значна паніжае цэны па артыкулы спажыцьця і ў адносінах да міжнароднага гандлю дапамагае наладжаньню спрыяйных адносінаў між народамі і, гэткім чынам, працуе на карысьць міру.

Прыняўшы пад увагу гэткае значэньне каапэрацыі, мы павінны адцяніць, што праблема каапэрацыі знаходзіцца ў самай цеснай сувязі з праблемаю згоднага сужыцьця народаў. Вось дзеля чаго здаровае разьвіцьцё каапэрацыі павінна прызнавацца за адну з паважнейшых сучасных эканамічных праблемаў кожнай дзяржавы. Але што датычыць да мэтадаў вырашэньня гэтай праблемы, дык трэба ўнікаць тых спосабаў, якія маглі-бы мець ад'емны ўплыў на згоднае сужыцьцё народаў. Трэба вітаць прынятыя на міжнароднай гаспадарчай канфэрэнцыі ў 1927 г. спосабы прапаганды думкі каапэрацыі аж да заснаваньня спэцыяльных катэдраў па каапэрацыі пры унівэрсытэтах і іншых вышэйшых вучэльнях.

Трэба прызнаць пажаданым дапамогу для каапэрацыі з боку урадаў шляхам арганізацыі даступнага крэдыту; палепшаньне ўзаемных адносінаў між нацыянальнымі каапэратыўнымі хаўрусамі і, асабліва, між хаўрусамі спажывецкіх каапэратываў і каапэратыўнымі нацыянальнымі арганізацыямі земляробаў, а галоўнае палепшаньне юрыдычнага стану каапэрацыі. Дзеля каапэрацыі пажадана мець спрыяйны каапэратыўны закон, які-бы не дапушчаў адміністрацыйнай самаволі.

Але наскольки шкадліва перашкода ў вольным разьвіцьці каапэрацыі, настолькі недапусьціма штучнае ўзмацненьне яе разьвіцьця. Дзеля гэтага ня можна псаваць яе субсыдыямі ці рожнымі падарункамі. Ня можна дапушчаць да каапэрацыі элемэнтаў, якія для яе зусім не карысны. Ня трэба накладаць на яе тую ролю, якую яна зусім ня здольна выканаць. Ня можна, напрыклад, прымушаць усіх грамадзян, як гэта зрабілі ў 1920 г. расейскія камуністыя, быць сябрамі спажыўчых каапэратываў. Зусім недапусьціма, каб уладамі нішчыліся прыватны гандаль і прамысловасьць, а замест іх уводзіліся каапэратыўныя арганізацыі. Гэткая мэтода прыводзіць зусім не да разьвіцьця каапэрацыі, але да стварэньня ўсялякіх псэўда-каапэратываў.

Зусім абмылкова накладаць на каапэрацыю ролю, галоўным чынам рэалізатара манаполю загранічнага гандлю, што часткова зроблена бальшавікамі ў адносінах маскоўскага Цэнтрасаюзу.

Падобныя меры ня прыводзяць да разумнага вырашэньня праблемы каапэрацыі, бо яны унутры краю не вытвараюць спраўных каапэратываў, дзякуючы таму, што гэткія каапэрацыі патрабуюць сяброў, якія толькі доўгагадовым выхаваньнем выпрацоўваюць у сабе чыстыя каапэратыўныя прынцыпы. З другога боку, гэткія меры (як, напрыклад, частковая манаполія унутранага гандлю) выклікаюць незадаволенасьць, абурэньне, якія ня спрыяюць разьвіцьцю мірных гандлёвых адносінаў між народамі.

Вось дзеля чаго трэба, наскольки гэта пытаньне датычыць праблемы каапэрацыі, унікаць такіх спосабаў яе вырашэньня, якія вядуць як да штучнага абмежаваньня разьвіцьця каапэрацыі, гэтак і да штучнага яе ўзмацненьня. Асабліва-ж ня трэба накладаць на яе ролі тых інстытуцыяў, якія падлягаюць органам ураду, выконваюць загады ўлады і працуюць па іх указаньням.

Толькі гэткае вырашэньне праблемы каапэрацыі, якое лічылася-бы з гэтымі прынцыпамі, можа даць пазытыўныя вынікі. Толькі прыняўшы пад увагу гэтыя меркаваньні, кожны край здолее найлепш вырашыць актыўныя праблемы каапэрацыі, шырокае разьвіцьцё якіх памагае мірнаму сужыцьцю рожных народаў.

(„Коопэратывна Республика")

# Палітычная хроніка.

## З ПОЛЬШЧЫ.

### Прыезд Марш. Пілсудзкага.

Маршалак Пілсудзкі 30 верасьня прыбывае да Бухарэсту, дзе будзе прыняты румынскаю каралеваю і Ўрадам. Маршалак там прабудзе 2 дні. Да Варшавы прыедзе 3 кастрычніка. На спатканьне Маршалка выехаў з Варшавы да Румыніі начальнік канцэлярыі Ваеннага Міністра, палкоўнік Бэк, які перад сваім выездам меў гутарку з прэм'ерам Бартэлям.

### Эміграцыйны рух.

Паводле даных Галоўнага Эміграцыйнага Ўраду ў працягу II кварталу выехала з Польшчы 66,340 эмігрантаў. З гэтае лічбы да эўропэйскіх дзяржаў выехала 45,295 асобаў і да пазаэўропэйскіх 21,045.

## З ЗАГРАНІЦЫ.

### Амэрыка вааружаецца.

Як паведамляюць ангельскія газэты, прэзыдэнт Кулідж да тэй пары не ўнясе дагавору Кэлога ў Сэнат для ратыфікацыі, пакуль апошні не зацьвердзіць новых крэдытаў на будоўлю 15 браняносцаў па 10,000 тоннаў. Амэрыканскім урадам разглядаецца праэкт будовы 25 браняносцаў з 21-сантымэтровымі гарматамі. Праэкт гэты прадбачыць будову падводных лодак, і маторызацыю арміі. Гэтак выглядае на практыцы амэрыканскі плян разаружэньня.

### Мілітарызацыя школаў у Сав. Расеі.

З Масквы паведамляюць, што Камісар'ят Асьветы выдаў новую інструкцыю аб увядзеньні ваеннага навучаньня ня толькі ў вышэйшых школах, але і ў сярэдніх. Кожная школа павінна залажыць у сябе ваенныя аддзелы. Выкладаць ваенную навуку будуць афіцэры чырвонае арміі. Найбольш здольныя вучні будуць выдзелены ў спэцыяльныя ваенныя групы. У апошні час наагул, прыметны ўзрост у С.С.Р.Р. мілітарыстычнай прапаганды.

### Страшны пажар.

У мінуўшую нядзелю увечары згарэў да тла вялікі тэатр у Мадрыдзе (Гішпанія). Лік ахвяраў у людзях прыпадняўшайся паніцы дасягае 700 чалавек, з якіх 400 згарэла ў вагні

### Будзённы на манэўрах рэйхсвэру.

„Express Poranny" падае, што на манэўрах Нямецкай арміі (рэйхсвэр), якія адбыліся на Нямецкім Шлёнску, прыймаў удзел Будзённы.

Савецкі гэн. быў у галоўнай кватэры, да якой быў дапушчаны яшчэ галоўнакамандуючы вэнгэрскай арміі Янкі.

### Страшны ураган у Амэрыцы.

Над малымі Антыльскімі вастравамі і паўвостравам Фларыдаю ў Паўночнай Амэрыцы пранёсься страшны ураган, прычыніўшы вялізарныя матэр'яльныя страты і ахвяры у людзях. На Фларыдзе згінула 400 асобаў, на в. Порто-Рыка — 1000 чал, на Дзявічых вастравох — 600. Матэр'яльныя страты на Флорыдзе дасягаюць 20 міл. ф. шт. Шпіталі перапоўнены раненымі. Парадак падтрымлівае войска. На Дзявічых вастравох пазбавілася даху над галавою каля 700,000 чалавек.

# Тутэйшая хроніка.

— **Скарапасьціжная сьмерць Язэпа Монкевіча.** 18-га верасьня скарапасьціжна памёр ад хваробы сэрца радца Адміністрацыйнага аддзелу Віленскага Ваяводства, Язэп Монкевіч. Нябожчык надта прыхільна адносіўся да беларускае справы.

— **Беларускія выцечкі на Гадаўлянай выстаўцы ў Вільны.** 7 і 8 верасьня прыбылі беларускія выцечкі на адведзіны Паўночнага Кірмашу і Выстаўкі ў Вільні з паветаў Сьвянцянскага, Лідзкага, Валожынскага, Маладэчанскага і Вялейскага.

У большасьці прыехаўшыя былі сябры Т-ва акружнае рады „Прасьветы" на Віленшчыну, Рольных Колак і Гмінныя радныя. З Маладэчанскай выцечкай быў і нававыбраны войт Палачанскае Гміны Чарняўскі — сябра аддзелу „Прасьветы" у Маладэчне.

Усе, хто ня меў дзе затрымацца, знайшлі гасьцінnасьць у рэдакцыях „Грамадзяніна" і „Беларускага Раднага", дзе атрымалі бясплатна начлег, гарбату і абеды.

У гэтыя дні на Выстаўцы акурат быў найвялікшы рух і ўсе прыехаўшыя выехалі дамоў з моцным ўражаньнем. Выцечка з Маладэчанскага і Вялейскага павету мела вялікае жаданьне прывітаць Віленскага Ваяводу і падзякаваць яму за арганізацыю Выстаўкі і за тое, што, дзякуючы адпаведным распараджэньням, была дадзена магчымасьць адведаць Выстаўку і жыхаром вёсак, але, нажаль, у гэты час п. Ваяводы на Выстаўцы ня было.

— **Рэха Паўночнага Кірмашу і Выстаўкі ў Вільні.** Ад 18 жніўня да 9 верасьня адведала Выстаўку каля 200.000 асобаў. Кірмаш зачыніўся 9 верасьня, а Рэгіёнальная Выстаўка

яшчэ асталася на некаторы час. Уваход 40 гр., а для моладзі і вайсковых 20 гр.

З беларусаў на Выстаўцы атрымалі пахвальныя лісты: Язэп Нялепка за апарат ўласнага выналаходу, які, будучы прытасаваным да лодкі, ці карабля, дае магчымасьць падчас хваль захоўваць раўнавагу.

Язэп Нялепка ў галіне вынаходаў—самавучка. Вынаходамі займаецца даўно. У руху беларускім вядомы, як пісьменьнік пад псэўданімам Старога Цыліпа.

Некаторы час працаваў пры ўрадзе Ластоўскага. У сучасны момэнт працуе ў Вільні. Другі пахвальны ліст атрымаў Язэп Тулейка—за вулей для пчол.

Рэгіёнальная выстаўка якая, пасьля зачыненьня 6-га верасьня Паўночнага Кірмашу, яшчэ пазасталося для агляду віленскага грамадзянства, а галоўнае вучнёўскае моладзі, будзе зачыненай 1-га кастрычніка б. г.

Як памятка аб І Паўночным Кірмашы і выстаўцы п. Б. Сьвянціцкі — старшыня прэсавае прапаганды гэтае выстаўкі—приступіў да выданьня „памятковае ілюстраванае кніжкі аб першым паўночным кірмашы і выстаўцы."

Кніга будзе выглядаць, як альбом, багаты фатаграфіямі ўсіх фірмаў і экспанатаў, браўшых удзел у Выстаўцы.

— **З жыцьця Акружнае Рады „Прасьветы."** 23 верасьня Старшыня Акружной Рады Т-ва „Прасьветы" на Віленшчыну, гр. Т. Вернікоўскі, выяжджаў у Маладэчна на канфэрэнцыю са старшынямі Аддзелаў „Прасьветы" у справе складаньня дэкляраціяў на школы і абгаварываньня бягучых справаў.

Маладэчанскі Аддзел зьмяніў сваё памешканьне, пашырыўся і перайшоў на вул. Завальная, 1.

Старшынёй Аддзелу пазасталася Еўгэньня Чарняўская, лік сяброў павялічыўся цэлым шэрагам новых асобаў.

У хуткім часе Маладэчанскі аддзел шыкуе спэктакль у Маладэчне пад кіраўніцтвам А. Асіповіча.

— **Благі ураджай на Віленшчыне.** Ваяводзкія ўлады атрымалі падрабязную справаздачу аб стане ўраджаю на тэрыторыі Віленскага ваяводзтва. Паводле гэтых справаздачаў, ураджай гэтага году ў Віленскім ваяводзтве і ў іншых частках Польшчы горшы, чым у мінуўшым годзе.

Найбольш пацярпелі пашы, якія прапалі на 50 проц. Рольнікі ў страху перад тым, што ня хопіць корму для жывёлы на зіму, распрадаюць значную частку свайго статку. У зьвязку з гэтым у ваяводзтве адбылася канфэрэнцыя, на якой разглядаліся пытаньні аб грашовай дапамозе рольнікам, пацярпеўшым ад няўраджаю.

— **Дапамогі для рольнікаў, пацярпеўшых ад няўраджаю.** 21 гэтага месяца ў ваяводзтве адбылося паседжаньне рольнае камісіі, на якім абгаварывалася пытаньне аб няўраджаі ў Віленскім ваяводзтве. На паседжаньні быў прысутным п. Ваявода.

Ад няўраджаю гэтага году асабліва пацярпелі травы. На нізкіх мейсцах, дзякуючы доўгім даждҗом, прапалі на'т скошаныя травы. У некаторых мейсцах ваяводзтва было сабрана менш 40 проц. нармальных збораў. Шмат дробных рольнікаў ня змогуць утрымаць свой статак да вясны. Дзеля гэтага шмат сялянаў ужо пачалі распрадаваць жывы інвэнтар. Значная рэдукцыя жывёлы ад'емна адаб'ецца на ўгнаеньні глебы, што, ў сваю чаргу, адаб'ецца на ўраджайнасьці зямлі. Асабліва пацярпелі ад даждҗоў паветы: Браслаўскі і Віленска-Троцкі. Гэтак сама быў слабы ўраджай і жыта, недабор якога дасягае 30 проц. нармальнага ўраджаю.

Аб прадажы ў значнай колькасьці збожжа местам ня можа быць і мовы. Шмат гаспадарак ня будуць у стане пракарміцца самі да

# Каштарысная драма*).

(*Гумарэска*).

Настаўнік працоўнае школы Кастусь Кандратавіч Гістарычэнка і яго жонка Кацярына.

Прозьвішча Гістарычэнка, называючы ім жонку Кацярыну, шмат лепш гучыць, калі яго вымаўляць Гістэрычэнка (ад слова гістэрыя), прыймаючы на ўвагу тую колькасьць гістэрык, якія яна „закатывала" мужу на працягу месяца, асабліва калі складаўся „мясцовы каштарыс" (не акрвыканкому, а Гістарычэнкаў)...

Вось і зараз сядзяць Кастусь з Кацярынаю за сталом і складаюць каштарыс.

Тут-жа сядзіць іх будучы — піянэр—Камінтэрн і, гадоў пяць, Акцябрына.

Паседжаньне—у поўнай прысутнасьці ўсіх членаў.

Кастусь пачаў паседжаньне з такім урачыстым выглядам, нібы ён распрацоўваў плян наступу на Перакоп.

— Дык вось, Кацярына, 10 рублёў трэба, каб прышыць галоўкі ў мае боты і даць падноскі нашаму Камінтэрну.

— Камінтэрн яшчэ з месяц пераходзіць.

— Але, пераходжу. Вось ануча ўжо мокрая,—падае рэпліку Камінтэрн.

— Тут гэтага параграфу ня ўрэжаш. Бачыш: вясна наступае, мне ў школу трэба хадзіць на розную там грамадзкую працу.

— А ты не хадзі. Няхай грошы плацяць. Тады і грамадзкасьць будзе.

— Так, не хадзі. А што мясцком засьпявае. Вось у спраўдом...

— Што, у спраўдом пасадзяць?

— Так, ужо „пасадзілі": прызначылі і хадзі у „чырвоны куток" у спраўдоме на працу. Пахадзі аж за горад, папрацуй.

— З вастрожнікамі? Вой, ратуйце!

*) З савецкага быту.

вясны. Шмат каму не хапіла і ня хопіць насеньня пад азіміну. Збор яравых пасеваў і бульбы гэтак сама слабы. На гэтае апошняе найбольш папярпелі у паўночных паветах: Браслаўскім, Дзісьненскім, Сьвянцянскім і Пастаўскім.

У зьвязку з гэтым на канфэрэнцыі абгаварываліся пытаньні аб аказаньні дапамогі ральніцтву Віленскага ваяводзтва. З гэтаю мэтаю начальнік аддзелу ральніцтва і вэтэрынарыі, п. Шаняўскі, ўнёс цэлы шэраг прапазыкскіраваных да палепшаньня быту рольнікаў. У канцы камісія прызнала неабходным: 1)застасаваць падатковыя палёгкі ў тых гмінах Браслаўскага, Дзісьненскага, Сьвянцянскага і Пастаўскага паветаў, дзе недабор збожжа перавышае 30 процант. нармальнага ўраджаю; 2) застасаваць зьніжку тарыфу для ўвозу на тэрэн Віленскага ваяводзтва збожжа, пашы і лубіну.

Дзеля таго, што ў зьвязку з гэтым у кааперату́ных банках павялічыліся затрэбаваньні пазычак для дробных рольнікаў, пастаноўлена павялічыць капітал банкаў і аблягчыць атрыманьне пазычак дробнымі рольнікамі. Каб устрымаць узрост цэнаў на збожжа, пастаноўлена распачаць акцыю магазынаваньня збожжа ў мэтах інгэрвэнцыйных.

Абгаварываўся гэтак сама факт масавай прадажы статку. З гэтаю мэтаю пастаноўлена набываць жывы інвэнтар дзеля абароны рольнікаў перад вызыскам гандляроў.

Усе гэтыя ўнёскі будуць запрапанованы п. Ваяводзе з просьбаю прыняць адпаведныя крокі перад Цэнтральнымі Ўладамі.

**— Справы Беларускіх Гімназіяў Віленскай і Радашковіцкай.** Як ужо ведама, канцэсія на Віленскую Бел. Гімназію перайшла ад Т-ва Бел. Школы да Бацькаўскага Камітэту гэтае Гімназіі і ў сучасны момэнт функцыянуе нармальна. Часовымі дырэктарам і інспэктарам вызначаны гр. гр. Трэпка і Астроўскі.

Беларуская Гімназія ў Радашковічах закрыта ўладамі аканчальна. На яе мейсца ў гэтым самым гмаху будзе адчынена 7-клясовая пачатковая школа, канцэсію на якую атрымаў б. сэнатар Уласаў.

**— Беларус біскупам.** Вядомы беларус кс. Ф. Абрантовіч назначаны Папежам на біскупа у Харбін (у Манджурыі).

**— Дэлегацыя да Віленскага Куратара** У сувязі з адказам Віленскае Куратoрыі на заяву Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры ў справе канцэсіі на вучыцельскую сэмінарыю, дня 13-га верасьня ўдалася да п. Куратара дэлегацыя ад Інстытуту ў асобе старшыні гр. Більдзюкевіча а і паслоў: Ф. Ярэміча і П. Карузы. Пан Куратар запэўніў, што калі ўсе фармальнасьці будуць задавольваючымі, дык канцэсію на Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю выдасьць яшчэ ў сёлетнім годзе.

**— Новая інтэлігэнтная сіла.** У Чэхаславаччыне скончыў палітэхніку беларус Аркадзь Міцько з дыплёмам інжынэра хіміі, які ў хуткім часе вернецца на Бацькаўшчыну у Зах. Беларусь.

**— З Працэсу „Грамады“** Як пішуць польскія газэты, копія з прыгавору, апрацаваная судзьдзёй Ёдзевічам, ужо ўручана засуджаным. Ад іх ужо паступаюць апэляцыйныя скаргі.

З другога боку, ходзяць чуткі, што быццам Пракурорскі Урад так сама хоча скарыстаць са свайго праву і падаць скаргу проці гр. гр. Астроўскага, Луцкевіча, Сакалоўскага Шэвеля і Шнаркевіча, якія, як ведама, былі ўнявінены і знаходзяцца на вольнасьці.

**— Мамонька ў Менску.** Як паведамляюць польскія газэты — вядомы на віленскім бруку эс-эр Язэп Мамонька ў сучасны момэнт апынуўся аж у Менску, дзе, быццам, зьбіраецца выгласіць цэлы цыкл „адчытаў“ аб Польш-

---

— Ну, далей. Значыць, ужо 10 руб. няма.

— Затым, хоць трэсьні, Кацярына, а трэба мне хоць па рублю аршын набраць якога-небудзь корту на штаны.

— А можа абыйдзешся? Прахадзіў чатыры гады ў гэтых штанох, прахо́дзіш яшчэ пару месяцаў.

— Ну, Каця, разумееш, я далей не магу. Ужо і так ніколі не хаджу па клясе, а ўсё сяджу і сяджу. Тлумачу я ўрок, а вучні ўсё сьмяюцца і сьмяюцца... У чым справа—думаю. А потым дагадаўся, што яны падлічваюць, колькі на маіх штанох заплатак. Гэта-ж драма, разумееш—цэлая трагэдыя...

— Ну, добра. А мне што набярэш? У мяне-ж ні ботаў, ні сукенкі.

— Табе што? А ЦРК не прадасьць-жа цяпер аднаго корту на штаны, а накіне яшчэ аршын са тры батысту — вось і будзе табе на блюзку.

— Няхай яна згарыць твая блюзка! Мне сукенка патрэбна, а ня блюзка. Ня дбаеш ты пра мяне.

— Ну, добра — няхай сукенка, — сказаў Кастусь, адчуваючы блізкую гістэрыку.

На штаны да на сукенку набраць — гэта будзе каштаваць рублёў 7, да пашыць... Ну, няхай будзе 11 руб. Дзесяць да адзінаццаць...

— Дваццаць адзін!—гукнуў на ўвесь пакой Камінтэрн.—Тата, а мне трэба піянэрскі гальштук і новыя сшыткі.

— Вось бачыш, мы і забылі пра яго. І для яго-ж хоць рубель трэба, — сказаў Кастусь... Вось і ўсе табе 22 рублі, якія я атрымаў за поўмесяца.

— О-ох,—уздыхнула Кацярына.—Насіліся з гэтымі настаўнікамі, а пэнсію, бач, прыбавілі, як кот наплакаў.

— Мама, есьці! — гэта Акцябрына.

— Вось будзем гарбату піць — і есьці ня будзеш хацець.

Праз некалькі хвілін шумеў самавар.

чы і ў прыватнасьці аб беларусах у Заходняй Беларусі.

Як ведама, тав. Мамонька прыбыў у Вільню у 1925 г. нялегальна з Прагі праз Коўну. Аматар шуміхі ля свайго імені, ён з першых дзён прыезду ў Вільню пачаў „барацьбу з палітычнымі ворагамі эс-эраўскае ідэолёгіі" і праз усе 3 гады толькі гэтым і займаўся. Дзякуючы гэтаму, пералаяўся амаль што з усімі арганізацыямі і паасобна з дзеячамі і апынуўся перад адзіным выхадам—зьмяніць мейсца сваёй шумлівай дзейнасьці, што нарэшце і выканаў. Дзеля гэтага трудна спадзявацца, каб праз ягоныя вакуляры жыцьцё Заходняе Беларусі выглядала-бы праўдзіва, а ягоныя адчыты ня былі тэндэцыйныя і карысталіся патрэбнай павагай.

Жадаем яму такіх-жа паважаньня і пасьпеху, якія меў у Вільні.

**— А. Кабычкін на Лукішках.** Як паведамляюць польскія газэты, б. сэкрэтар Беларускай Нацыянальнай Рады, Аляксандр Кабычкін, заарыштаваны ў сувязі з нейкім Селяхам, быццам „савецкім" вывядоўцам.

А. Кабычкін, сапраўды, ў свой час ў 1925-1926 г. быў сэкрэтаром тымчасовай Беларускай Рады, ўвазглаўляемай А. Паўлюкевічам, але каб ён меў адносіны да якіх-колечы „вывядаў", дык „верыцца з трудом" — глухі мала рухлівы, па некалькі дзён ня выходзячы са свайго пакою, на'т каб паабедаць, (а паесьці, дзякуючы сваей камплекцыі, патрабаваў добра) — калі і дзе мог ён зьбіраць інфармацыі і каму і што перадаваць?

Толькі асобы, зусім ня ведаючыя Кабычкіна, могуць паверыць, што ён здольны ня толькі да канспірацыйнае, але, наагул, да якой-колечы працы.

**— Закрыцьцё Гурткоў „Т-ва Бел. Школы".** „Dz. Wil." падае, што па загаду адміністрацыйных уладаў паліцыя закрыла 4 гурткі „Т-ва Бел. Школы" у Сіўцах, Слабадзе, Княгіні і Карапішчах. Апрача гэтага, некалькі дзён таму назад былі зачынены гурткі „Т-ва Бел. Шк." у Палачанах і Літве, Маладэчанскага павету.

**—Канфіскацыя.** 27-га верасьня па загаду Гарадзкога Старасты быў сканфіскаваны № 8 „Рэха Працы" за артыкулы: „40,00" і „З Т-ва Бел. Школы".

**— Канфіскацыя „Маланкі."** 20 верасьня па загаду адміністрацыйных уладаў была сканфіскавана гумарыстычная беларуская часопісь „Маланка" № 9. за артыкул „Усе ўладны паліцыянт — уцяшыцель", у якім заўважаны адзнакі праступленьня, прадбачанага ў 1 § Дэкрэту Прэзыдэнта Рэспублікі.

**— „Саха."** Выйшаў в друку чарговы нумар (№ 16-17) сельска-гаспадарчае часопісі „Саха". Зьмест часопісі наступны: Аб камасацыі. Вапнуем глебу. Лушчэньнем павялічваем ураджай. Змаганьне з сарнякамі. Павялічэньне корму ў гаспадарцы цераз сіласаваньне. Кармовыя сурагаты. Колькі можна атрымаць малака ад сялянскае каровы. Гадоўля ліна і карася у ставкох. Аб натуральным залужаньні балот. Як абмаладзіць старыя сады на вёсцы. Як зрабіць жывую абгародку. Галоўныя асеньнія работы на пасецы. Аб будове агнятрывальных будынкаў з гліны. Гаспадарчыя парады. Парады для гаспадынь. Сельска-гаспадарчая хроніка. Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі — Вільня вул. Св. Анны 2-3.

**— Пакліканьне на ваенную службу 1907 г.** У гэтых днях ваенныя ўлады пачалі даручаць карты прызыву прызыўным 1907 г., якія вясною былі прынятыя прыемачную камісіяй і атрымалі катэгорыю А. Пакуль пакліканa будзе першая група (turnus), а другая — на вясну 1929 г. Асобы, якія атрымалі карты прызыву, павінны явіцца ў свае часьці ў

---

Пілі гарбату з сухарамі, якія Кацярына насушыла з хлеба (5 кап. фунт у ЦРК).

Кастусь дапівае ўжо пятую шклянку і адчувае сябе задаволеным: каштарыс на бягучы поўмесяца пашанцавала скласьці без асаблівых драм.

Раптам Кацярына ўспомніла аб харчох, ды як залемантуе.

— А есьці што будзем? Ты і забыў пра харчы. Чым я вас карміць буду?

Кастусь толькі цяпер успомніў, што гэты артыкул у каштарысе ён прапусьціў.

— Эге-ге! — сказаў ён, пачухаўшы патыліцу.—трэба скарачаць каштарыс. Значыць, выкінем сукенку.

— Штаны выкінь!

— Сукенку!

— Штаны!

— Сукенку!

— Дакуль ты мяне мучыць будзеш?

— А што я буду ў клясе „на ўсю Эўропу" сьвяціць?

Жонка ўплач.

— Я не хачу з табою жыць! Развод вазьму...

— Ідзі, адчапіся ты ад мяне. Дзе ты ўзялася на маю галаву!..

— Дык я табе не патрэбна?

Ды як хопіць са стала талерку, ды як бразьне аб падлогу, а затым бах (ненарокам на ложак, хоць і бяз пружын, але з сяньніком) і... „закаціла гістэрыку"...

Камінтэрн настаражыўся, убачыўшы такую патасоўку, а Акцябрына ўплач.

Кастусь груknуў дзьвярыма і зьнік у цемры гораду. Ішоў і думаў:

— Вось і распрацоўвай комплексы, калі ўласныя штаны і надалей будуць тым комплексам, з якога будуць сьмяяцца дзеці...

(„Працаўнік асьветы". Дадатак да газ. „Савецкая Беларусь").

вызначаны тэрмін, у праціўным выпадку пагражае кара.

— **Спэктакль.** Аддзел ім. Янкі Купалы Акружнай Рады „Прасьветы" на Віленшчыну у в. Румянцаве, Беніцкай гміны, Маладэчанскага пав., які пераносіцца ў в. Юраўшчыну г. вол. у бліжэйшым часе ладзе ў гэтай вёсцы спэктакль. Будзе адыграна: „Суд" п'еса у І акце Галубка, „Суд над трохпалёўкай" агро-п'еса ў І акце і „Боты" — водэвіль у І акце.

— **З Інст. Гаспадаркі і Культуты.** 10 верасьня адбылося паседжаньне Цэнтр. Ураду Бел. Інст. Гаспадаркі і Культуры, на якім, між іншымі бягучымі справамі, ухвалена парушыць справу адказу Куратора на заяву аб канцэсіі на Бел. Вуч. Сэмінарыю. Далей, прынялі да ўжытку „Гімн Інстытуту" — музыкальны твор пасла А. Стэповіча — „Дзе чутны мовы нашай гукі", які будзе выконвацца на ўсіх урачыстасьцях Бел. Інст. Гаспадаркі і Культуры.

— **17 верасьня адбылося паседжаньне** Прэзыдыуму Беларускай Партыі Хадэкаў. Абгаварваліся справы палітычныя і арганізацыйныя.

— **Дэклярацыя беларусаў на кангрэсе Нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве.** Як піша „*Biel. Krynica*", пасол ф. Ярэміч ад імя беларусаў падаў гэткую дэклярацыю:

„Ад імя Беларускага Народу, што жыве ў межах Польшчы, вітаю IV кангрэс арганізаваных нацыянальных групаў Эўропы, жадаю яму плоднай працы і дзякую за прыняцьце беларускае групы ў лік сяброў кангрэсу.

Непамерна шкадую, што на гэты раз не магу актыўна браць удзелу ў працах кангрэсу, бо толькі апошнімі днямі атрымалі запросіны і не маглі задавольваюча прыгатавацца. Пры гэтай спасобнасьці не хацеў-бы абмінуць, што палітычныя імкненьні Беларускага Народу былі выказаны ў агульных рамках ужо на кагрэсе ў 1925 і 26 г. г. Затрымліваю для нашай групы права зглажэньня дэклярацыі на наступным кангрэсе".

Трэба адцеміць, што гэта ўжо па чарзе 3 кангрэс і што на першых двух беларусы актыўнага ўдзелу ня бралі, а былі прысутнымі толькі, як наглядчыкі.

— **Беларуская вечарына у Вільні.** Беларускі Студэнскі Саюз ў Вільні наладзіў ў дню 22 верасьня ў салі Віл. Бел. Гімназіі вечарыну. У праграму ўвайшло: 1) Спэктакль — „Сурдут і Сярмяга" драмат. абраз з песьнямі і танцамі ў 3-х актах, 2) дэклямацыі, 3) хор і 4) скокі.

Саля гімназіі і калідор ледзь зьмясьцілі госьцяў. Сярод беларускага грамадзянства былі прысутнымі амаль што ўсе паслы — а гэтак сама і дзеячы рожных партыяў і кірункаў. Ад Польскага грамадзянства, між іншымі, былі прысутнымі: п. Кіртыкліс, п. Некраш, п. Віславух.

Пасьля спэктаклю і канцэртнага аддзелу скокі адбыліся ў памешканьні Інстытуту Гаспадаркі іКультуры і зацягнуліся позна за поўнач.

— **Аб Доме беларускае культуры.** У газ. „Рэха Працы" № 7, зьмешчана справаздача Навуковага Т-ва аб зьбіраньні ахвяраў на будову Дому Бел. Культуры. Пачынаючы ад месяца траўня, калі прыступлена да зьбіраньня грошаў, да сяньняшняга дня сабрана: 1) перанесена на рахунак „Дому Беларускае Культуры" сабраных ад 1923 году Навуковым Таварыствам на дом для Беларускага Музэю — 6.600 зл., 2) паступіла чыстага даходу ад „Вечара Славянскае песьні", ладжанага ў Вілен. Белар. Гімназіі — 250 злотых, 3) ад Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу, як працэнтная адлічка за 3 месяцы — 240 зл, 4) ад групы вязьняў з турмы „Коронова" — гр. Рак-Міхайлоўскага,Бурсэвіча і інш.—25 зл.30 гр., 5) ад гуртка в. Канюшаўшчына, Баранэв. павету — 40 зл., 6) ад гуртка в. Жэрабковічы Баранавіцкага павету — 15 зл і інш., а ўсяго сабрана да 19.IX 1928 г. — 7.369 зл. 53 гр.

Усе грошы знаходзяцца ў Беларускім Кааперацыйным Банку ў Вільні (Віленская вул. № 8) на тэрміновым рахунку „Дому Беларускае Культуры ў Вільні" № 17. Грошы ўпісаны ў асобную, сцьверджаную натарыюсам кнігу, і могуць расходвацца толькі па пастановам Ураду Нав. Т-ва. Дагэтуль ніякіх расходаў ня было і не прадбачыцца.

Урад Навуковага Т-ва яшчэ раз заклікае Грамадзянства і Беларускія арганізацыі ў краі і загранiцай складаць свае ахвяры на „Дом Белар. Культуры ў Вільні", прысылаючы іх на рахунак № 17 Белар. Каапэр. Банку ў Вільні (Віленская вул. № 8).

— **З „Т-ва Бел. Школы."** У зьвязку з спыненьнем Гарадзкім Старастаю места Вільні 28 жніўня 1928 г. дзеяльнасьці Т-ва Беларускае Школы, матывуючы гэты загад вымаганьнямі публічнае бясьпечнасьці, Галоўная Управа і Наглядная Рада у поўным складзе адмовіліся ад сваіх паўнамоцніцтваў, даручыўшы часовае вядзеньне справаў Т-ва Камісіі з трох сяброў, якая павінна у самым хуткім часе склікаць агульны сход Т-ва для выбару новае Галоўнае Управы і Нагляднае Рады. У склад гэтае Камісіі Трох увайшлі: А. Трэпка, К. Крук і Шчаркевіч. Згодна з пастановаю камісіі агульны сход склікаецца на 21 кастрычніка г. г.

У выніку захадаў Галоўнае Управы перад Ваяводаю, пастанова Гарадзкога Старасты аб спыненьні дзеяльнасьці Т-ва ухілена рэзалюцыяй Віленскага Ваяводы з дня 7 верасьня.

---

Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы, передайце суседу!

# Карэспандэнцыі.

## Уражаньні ад выстаўкі.

(Лебяда, Лідзкага пав.)

Я хачу падзяліцца з усімі чытачамі „Грамадзяніна“, роўным чынам з усімі Беларусамі тым, якое на мяне ўражаньне зрабіла Ральнічa-Прамысловая Выстаўка ў Вільні 8 верасьня г. г. Калі чалавек жыве ў вёсцы і працуе на сваім кавалку зямлі, дык яму здаецца, што нідзе на белым сьвеце няма нічога лепшага, апрача яго вёскі і ральлі. Але калі-бы часам прыйшлося куды-небудзь выехаць і паглядзець на ўсё тое, што ёсьць у гаспадарцы, дык прыходзіцца толькі дзівіцца, адкуль гэта ўсё бярэцца.

Прыехаўшы ў Вільню, я, як сябра Т-ва „Прасьветы“, удаўся да рэдакцыі „Грамадзяніна“, дзе знайшоў яшчэ каля 30 чалавек, сяброў Т-ва, і ўсе мы разам удаліся на Выстаўку. І што-ж мы там убачылі? — Калі-бы прыйшлося пералічыць усё тое, што было там, то трэба было-бы надрукаваць цэлую кніжку. Якія былі пекныя коні! Але яшчэ ляпей выглядаў статак, краёвае чырвонае гадоўлі. Былі бугаі, якія ў веку 5 гадоў важылі 1,000 кілёграмаў, ці каля 63 пуд. Але не горэй выглядаў статак і рабы нямецка-галяндзкае расы. Былі сьвіньні і авечкі, што мне на цэлым маім жыцьці ня прыходзілася ўбачыць.

А калі мы пайшлі ў прамысловы аддзел, то і там можна было ўбачыць шмат чаго цікавага для земляроба: усялякія малатарні, арфы, плугі, сячкарні... Асаблівую ўвагу зьвярнулі на тое, як мнуць лён паравою машынаю, паравую цэнтрыфугу, выраб драждж эй. Сядз ць, напрыклад, кабета і тчэ кросны. Але ня думайце, што такія, як у нас: палатно шырынёй больш, як паўтара мэтраў. Паравоз, аўтамабілі і г. д.

У Дзяржаўных Манаполях вырабку папяросаў і разьліў гарэлкі кожны мог убачыць сваімі ўласнымі вачыма. У ральнічым аддзеле — ўсялякія сарты насеньняў, галоўным чынам з Віленшчыны і ўсе шкоднікі насеньня. Там-жа можна было пачуць, як змагаюцца з гэтымі шкоднікамі. Адным словам, гэта Выстаўка ішла на сустрэчу ральніцтву. Чаго ня мог зразумець сам, то ўсякаму, калі-бы толькі запытаў, даваліся самыя падрабязныя выясьненьні.

Усё гэта было ўласнасьцю паасобных гаспадароў. Але было шмат экспонатаў усялякіх таварыстваў, як гадаўляных, так і прамысловых. Можна было там убачыць і даведацца, сколькі ў нашым жыцьці прыносяць дабра і карысьці ўсялякія таварыствы. Як вядома, аднаму купіць якую-небудзь машыну трудна, але калі-б сабралася некалькі гаспадароў, дык кожнаму-бы каштавала мала, а карысьці было-б шмат. Напрыклад, узяць паравую малачарню: абслугі патрабуе мала — 2—3 чал., а ці-ж можна параўняць масла з тым, якое зьбіраецца з малака? І масла больш, і лепшае. Акрамя таго і астатак (сываратку) можна пусьціць у пользу, кормячы жывёлу. Але гэта ў нас чамусьці не заводзіцца. Калі хто захоча залажыць асьветную арганізацыю ці спажывецкае т-ва (каапэратыў), альбо залажыць малачарню, то трудна падабраць людзей. Кожны ні то баіцца, ні то сам сабе ня верэ. Адным словам, ня хоча ўнікаць у культурна-гаспадарчае жыцьцё, а хоча, каб для яго хтось зрабіў, а ён жыў-бы на гатовым.

Браты Беларусы! Мінулі тыя часы, калі мы маглі спадзявацца на чыю-небудзь помач. Толькі мы самі сабе зможам памагчы. Дык пойдзем усе да культурна-асьветных арганізацыяў. Ня чурайцеся ніякіх спаўдзельняў, а ўсе ў іх запісвайцеся, бо ў спаўдзельчасьці сіла. А ў гэтай рабоце нам прыйдзе з грашоваю помачаю Урад.

**Беларус, быўшы на Выстаўцы.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Павялічэньне корму ў гаспадарцы цераз сіласаваньне.

З усіх куткоў Заходняе Беларусі разносяцца сумныя і грозныя весткі аб вострым кармовым пытаньні. Халодная і мокрая вясна, а потым такое-ж самае і лета затрымалі рост як палявых культур, таксама і травы, якая шмат дзе на нізінах стаяла ўвесь вэгатацыйны пэрыяд пад вадой. Сяляне сьпяшаць збыць лішнюю жывёлу, каб як-небудзь пракарміць пакінутую, што выклікала рантоўнае паніжэньне цэн на скаціну. Прыходзіцца цяпер-жа задумацца над прыдбаньнем новых кормаў, з якімі гаспадар мог-бы сяк-так перабіцца гэты трудны для яго год. Прыходзіцца зьвярнуць увагу і на сарнякі, і на ўсякія гаспадарчыя адкіды, на што нашы сяляне заўсёды не зварачваюць увагі.

У гэтым нарысе я хачу падзяліцца з нашымі чытачамі з лёгкім спосабам выкарыстоўваньня ўсялякіх адкідаў, як сарнякі на полі, бацьвіньне буракоў, бульбы, лісьцё капусты, загніўшыя корань — клубняплоды, лісьцё з дрэў, позьняя атава з лугоў і канюшыньшча, розныя асокі і сітнікі, і г. д. Спосабам гэтым будзе **сіласаваньне** (квашэньне), пры якім корм захоўваецца ў ямах. Заложаны ў гэтыя квасільныя (сіласныя) ямы корм бродзіць, робіцца мягкім, атрымлівае прыемны пах і смак і ахвотна паядаецца скатом. Такім чынам, усё тое, што топчацца неразумна гаспадаром пад нагамі і дарма прападае для гаспадаркі, або яшчэ больш засарала-б нашы нівы і гароды,

можна гэтым ня толькі ратаваць жывёлу ад голаду, але і падтрымаць яго прадукцыйнасьць*).

У ямах гэтыя гаспадарчыя адкіды пераховуваюцца сакавітымі, зялёнымі, а якое вялікае значэньне мае зялёны корм для жывёлы ўзімку паказвае і тое, што самыя лепшыя пароды скаціны на сьвеце вывелі'ся там, дзе была добрая і сакавітая паша. Каровы, як-бы багата ні карміліся сухім кормам у хляве, з выганам на пашу пачынаюць ад зялёнай пашы павялічваць удоі. І як дыэтычны корм, зялёная трава грае вялікую ролю, бо ўсе трыбуховыя хваробы жывёлы бываюць часьцей зімой ад недахопу сакавітай пашы, на якой пачынае апраўляцца і выздараўліваць.

Бяручы пад увагу такое вялізарнае значэньне зялёнага корму для жывёлы, на сіланьне нашым сялянам трэба больш зьвярнуць ўвагі і ня толькі перад вачыма голаду.

Асабліва значэньне сіласаваньне корму мае для Беларусі, дзе вільготны клімат дазваляе вырашчваць буйныя зялёныя расьліны, але часта трапляецца, што за дажджамі немагчыма высушыць і прыгатовіць добрае сена. Буйная зялёная расьлінная маса будзе найлепшым матэр'ялам для сіласу.

Месца для квасільных ям выбіраецца высокае і сухое з глінястым грунтам, дзе ямы могуць быць выкапаны без умацаваньня сьцен. У праціўным выпадку сьцены ям трэба ўмацаваць цэгламі, ці каменьнямі на вапне, цэмэнце (астатняе лепш). Ямы, зробленыя да часу, абкладваюцца дошкамі, або абмазваюцца вязкай глінай, якая апальваецца. Калі гліна добра прасохла, дык у апальваньні няма патрэбнасьці.

Форма ямы лепш за ўсё надаецца для сіласу круглая, ці простакутная. Глыбіня павінна быць каля 3 арш. Менш 2-х аршын ямы рабіць нельга, бо корм можа хутка псавацца. Шырыня залежыць ад таго, каб корм што дня вынімаўся на ўсю шырыню і глыбіню, бо ад дзеяньня паветра на сілас, якасьць яго паніжаецца. Пры вылічэньні даўжыні ямы трэба браць пад увагу колькасьці сіласу. Ведаючы, што 1 куб. саж. гатовага сіласу важыць каля 400 пуд. і вагу корму для закладкі ў сілас, можна вымеркаваць і даўжыню ямы.

Калі ямы ўжо прыгатоўлены, дык закладаць корм туды можна ня больш, як у працягу 3-х дзён у кожную яму, бо ў праціўным разе корм можа сільна сагрэцца і папсавацца. Матэр'ял для закладкі павінен быць **сьвежым ці чуць-чуць правялым**. Маса для закладкі пажадана аднастайная. Гэтага можна дасягнуць пераметваньнем корму, дзеля чаго ўкладаецца корм у ямы пaслойна, ці дробна (чым драбней, тым лепш) сячэцца і потым рэзкай пераметваецца перад закладкай у ямы.

Закладка корму ў ямы робіцца ў наступны спосаб: парэзаны корм укладаецца на ўсю яму таўшчынёй каля 4 вярш. і ўтоптываецца нагамі, а каля вуглоў—абрубкам дрэва. Потым, як добра ўтопчацца, корм соліцца (на 1 куб. саж. ямы каля 1-2 пуд. солі), па вуглох і каля сьцен больш, а на сярэдзіне слабей. Соль мае тут вялікае значэньне, бо салены корм лепш пераховуваецца і ахвотна паядаецца жывёлай. За першым слоем накладваецца другі і так да самага верху, кожны слой солячы. Сілас накладваецца вышэй краёў ямы на $1^{1}/_{2}$ арш. дзеля таго, каб ападаючы пад уласным цяжарам і націскам зямлі, ён з часам зраўняўся з краямі ямы. Калі корм для закладкі сухі, дык яго можна паліць вадой. Дождж (не раптоўны) працы ня шкодзіць.

Як корм у ямы ўложаны, яго націскаюць зямлёй да $1^{1}/_{2}$ арш. Агульнае тут правіла: чым гэты слой націску вышэй, тым лепшы ўдаецца сілас. Перад засыпкай зямлёй корм абкладваецца саломай і ў першы дзень націскаецца глінай да $^{1}/_{2}$ арш. Потым кожны наступны дзень ускідваецца такі-ж самы слой, толькі астаткі пажадана сыпаць лёгкай зямлёй (пяском). Калі тут прадбачыцца небясьпека ад марозу, дык можна зямлю аблажыць гноем. Тут засьцерагаю гаспадароў—ня класьці замест саломы дошак, што часта раіцца ў сельска-гаспадарчых кнігах, бо пад дошкамі зьяўляюцца пустоты, запоўненыя паветрам, ад якога сілас хутка псуецца.

Далейшы дагляд за ямай заключаецца ў адводзе ад яе дажджавой вады і сачэньнем за трэшчынамі ў пакрышцы, якія кожны раз трэба старанна забіваць зямлёй і ўтаптываць, памятуючы, што цераз трэшчыны можа дабрацца да сіласу паветра, якое можа папсаваць усю працу.

Калі гаспадар акуратна выканае ўсё вышэй сказанае, дык сілас можа быць гатовы да ўжытку цераз 2-3 месяцы і пераховувацца 6-7 месяцаў.

Пры дачы сіласу скату, яму трэба ўскрываць настолькі, сколькі можна вынуць сіласу, асьцярагаючыся, каб паветра не заходзіла да рэшты корму.

Сілас ахвотна паядаецца ўсімі хатнімі жывёламі. Прывучаць да яго скаціну трэба паволі, каб ня выклікаць недамаганьняў у страўнеьні жывёлы. Болш 20 фун. на дзень даваць не рэкамэндуецца. Добра сілас паядаецца разам з саломенай сечкай.

Агульніваючы ўсё сказанае, трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што ўдачны сілас атрымліваецца тады, калі гаспадар зьверне пільную ўвагу на тры запатрабаваньні сіласу: 1) абсалютна не працякаючая яма; 2) самае шчыльнае ўтрамбоўваньне дробна парэзанай сьвежай масы і 3) поўнае ізаляваньне сіласу ад надворнага паветра. Калі гэтыя ўмовы выкананы, дык надворны кіслярод не выклікае загніваньня, тэмпэратура не падымаецца высока і страта спажыўнай матэрыі бывае мінімальная. Сілас пры гэтых умовах бывае заўсёды добры.

П.

---

*) Атрутныя травы, як розныя казлы — малачай, чамярыцу, беляну, дурман і іншыя трэба асьцярагацца класьці ў сілах, хаця шкоднасьць іх там і ня высьветлена.

# З эміграцыйнага жыцьця.

## Да выезду жонак і дзяцей тых асобаў, якія жывуць у Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі.

На падставе ўзноў апублікаванага амэрыканскага эміграцыйнага закону, цяпер могуць выехаць у Злучаныя Штаты ў разьмерах істнуючай нормы жонкі і дзеці да 21 году тых асобаў, якія жывуць у Злучаных Штатах і не зьяўляюцца амэрыканскімі грамадзянамі. Адкак-жа, гэтыя асобы павінны давясьці свой лягальны ўезд у Злучаныя Штаты, бо амэрыканскі консул будзе выдаваць амэрыканскія візы толькі тым жонкам і дзецям, мужы (бацькі) каторых акажуць дакумэнты, якія ўстановяць лягальны ўезд у Амэрыку.

Амэрыканскі консул ужо распачаў рэгістрацыю гэтай катэгорыі эмігрантаў, але пакульшто зусім не выдае „Kart wstępu". „Karty wstępu" пачнуць выдавацца з другой паловы верасьня (września) бягучага году, ці з пачатку кастрычніка (października).

Жонкі і дзеці, якія належаць да вышэйуказанай катэгорыі, павінны неадкладна прыслаць амэрыканскаму консулу заяву аб зарэгістраваньні іх на выезд у Злучаныя Штаты. Да заявы абавязкава трэба далучыць новы „affidawit", цяпер атрыманы мужам (бацькам) у Злучаных Штатах. У гэтым „affidawit"-е павінна быць праўдзіва паказана дата прыезду мужа (бацькі) ў Злучаныя Штаты (якой параходнай лініяй і назоў параходу).

Незалежна ад гэтага, калі муж (бацька) ў сваім часе атрымаў амэрыканскую візу ў амэрыканскім консульстве ў Варшаве, трэба паказаць № і дзень выдачы візы, бо амэрыканскі консул ня можа адразу праверыць, ці сапраўды была выдана віза і, калі выдана, гэта досыць для доваду таго, што муж (бацька) прасіцеля лягальна прыехаў у Злучаныя Штаты.

У вадным толькі выпадку амэрыканскі консул ужо цяпер дае візы жонкам і дзецям не-амэрыканскіх грамадзянаў, а ласьне: калі муж (бацька) прыехаў у Польшчу і мае гэтак званы „permit to reenter". Атрыманьне гэтага „permit"-у зьяўляецца довадам лягальнага ўезду ў Злучаныя Штаты і, калі такі эмігрант хоча з сабою забраць жонку і дзяцей да 21 году, дык консул неадкладна выдае „Kartę wstępu", а пасьля, мінаючы чаргу, і візу.

## Паштовая скрынка.

Прысутны. Карэспандэнцыі Вашы атрымалі. Адна будзе зьмешчана ў наступным нумары „Грамадзяніна, а другая ў „Бел. Радным."

М. Усьціновіч. Ваша карэспандэнцыя не надаецца для друку.

## Бібліяграфія.

Новая часопісь. Выйшаў № 1 „Беларускае Зарніцы" — царкоўна-народнага двутыднёвіка рэдагаванага і выдадзенага сьв. А. Каўшом. З уступнага артыкулу „Ад Рэдакцыі" даведваемся, што ў хуткім часе адбудзецца Краёвы Праваслаўны Сабор, на якім будуць разгледжаны ўсе бягучыя пытаньні Праваслаўнае Царквы.

У артыкуле „Беларусізацыя Праваслаўнае Царквы" гаворыцца, што:

„Праваслаўная царква, як і іншая, не павінна служыць матэр'ялам для палітычных і партыйных экспэрымэнтаў", што „лёс сваее царквы павінны вырашыць толькі самі", што „Праваслаўныя беларусы нямаюць на мэце замяніць царкоўна-славянскае мовы ў багаслужэньні на беларускую"...

„Але бязумоўна карысным і патрэбным зьяўляецца 1) казаньні царкоўных навук у беларускай мове там, дзе насельніцтва гэтага пажадае, 2) выкладаньне рэлігіі ў школах у беларускай мове, 3) узгадаваньне будучых духоўнікаў для беларускага народу ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі ў беларускім нацыянальным духу і 4) вядзеньне дзелаводзтва ў кансысторыях і перапіскі паміж кансысторыямі, благачыннымі і сьвяшчэннікамі у беларускай мове"...

Далей ідуць артыкулы: „Царства Божае і царства Кесара", „Пастанова сьвяшчэннага Сыноду Праваслаўнай Мітраполіі ў Польшчы" (з якога відаць, што яшчэ з 1922 году Вышэйшая Царкоўная улада дазволіла ўжываньне беларускае мовы ў казаньнях і духавенства ня мае права адмовіцца ад гэтага, калі прыхаджане гэтага пажадаюць), „Думкі проціў небясьпечнага бязьвер'я", „Узаемаадносіны духавенства і прыхаджан", „Мітрапалітальная Рада" (ў склад якой ад беларусаў ўваходзяць: сьв. Коўш, Р. Астроўскі і М. Чатырка і якая „зсунула справу аб скліканьні Царкоўнага Сабору з грунту тэорэтычнага на грунт рэальны. Сабор мае сабрацца 10 студзеня 1929 г. у Пачаеўскай лаўры"), „Пільная справа" (дзе гаворыцца аб існуючым ненармальным зьявішчы, што дзеці, якія вучацца ў польскіх паўшэхных школах, недаюць толькі лацінскія літары і сьвяшчэннік піша малітву ў славянскай мове лацінскімі літарамі і што абавязкава трэба прыняць ўсе меры, каб дзеці мелі магчымасьць вучыцца сваей роднай мове), „Каму гэта карысна", „Націск расейскага філянтрапічнага таварыства на Духаў манастыр", гаспадарчыя парады і хроніка.

Увесь нумар выданы чыста, старанна, пачынаючы ад вокладкі з „Георгіям Пабеданосцам" і канчаючы зьместам усіх артыкулаў, робіць добрае ўражаньне. Хто цікавіцца жыцьцём праваслаўнае царквы, той знойдзе ў новай часопісі багаты і здавальняючы матэр'ял. Жадаем далейшага пасьпеху. К.

Згубленае рэгістрацыйна — вайсковае пасьведчаньне, выданае Красна—Сельскай гмінай на імя грамадзяніна вёскі Уша Кірылы Руткевіча, лічыць няважным Нашоўшага прашу зьвярнуць па адрэсу: в. Уша, пошта Аляхновічы К. Руткевіч.

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.